# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 11 (40). Слонім. 13 сакавіка — 19 сакавіка 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


**Дзесяць гадоў таму каля мікраараёна Рышчыцы ўзніклі новыя жылыя забудовы (вуліцы Каштанавая, Нαватараў, Пясчаная, Вінаградава, Дзекабрыстаў).**



## Раён, забыты Богам і людзьмі...

Днямі мясцовыя жыхары прапанавалі супрацоўнікам рэдакцыі паспрабаваць на машыне даехаць да вуліцы Каштанавай. Аказалася, што зрабіць гэта было не так проста. Усе вуліцы ўяўлялі сабой жахлівае відовішча і падобны былі на франтавыя дарогі (глядзіце здымкі)...

Па словах жыхароў гэтых вуліц, іх раён літаральна адрэзаны ад горада, асабліва вясной і восенню. А на вуліцу Каштанавую можна патрапіць хіба што на танку. Некалі сюды прыгналі аўтакран, дык ён там і сёння стаіць (глядзіце здымак)... Зімой аўтамабілістам даводзіцца ў багажніку вазіць пясок, каб падсыпаць яго пад колы, бо па-іншаму да месца не патрапіш.

У той дзень па дарозе мы сустрэлі «хуткую дапамогу», якая ехала па выкліку. Па словах урача і шафёра, не першы раз яны трапляюць у гэты раён і неаднаразова гразлі ў дарожнай багне.

На вуліцах Каштанавай, Наватараў і іншых стаіць вечная цемра, бо няма асвятлення. Няма і тэлефоннай сувязі (усяго некалькі абанентаў і адзіны тэлефон-аўтамат, які знаходзіцца на Паўднёвай вуліцы). Некалькі гадоў таму ў гэтым раёне гарэў дом. Пакуль выклікалі пажарных, ад даху дома нічога не засталося.

Большасць дзяцей з гэтых вуліц ходзяць у СШ № 9, што на «Энцы». На іхнім шляху шмат перашкод. А недалёка ад Каштанавай вуліцы, на месцы былых ачышчальных збудаванняў, знаходзяцца два вялікія калодзежы-«шахты» невядомага прызначэння. Раней зверху яны былі закрыты бетоннымі плітамі, а цяпер іх нехта зняў, і калодзежы засталіся адкрытымі. Мясцовыя жыхары кажуць, што там часта гуляюць дзеці. Не дай Бог, каб здарылася якое няшчасце.

Таму людзі звярнуліся ў гарвыканкам. Ім адказалі, што гэта «не іх тэрыторыя, а ваенных». А калі да месца «таямнічых аб'ектаў» прыехаў палкоўнік, то спачатку прапанаваў іх узарваць, а пасля перадумаў, заўважыўшы, што «шахты» «яшчэ могуць спатрэбіцца гораду». Невядома толькі для якой мэты?

**Сяргей ЁРШ**

**Фота Сяргея КРАЎЦОВА**





**НАВІНЫ**

## Карціны слонімцаў у Гродне

**Больш за сорак работ слонімскіх мастакоў экспаніруюцца на выставе, якая днямі адкрылася ў Гродне.**

Наведвальнікі пазнаёмяцца з лепшымі творамі нашых жывапісцаў Яўгена Гіля, братоў Алега і Яўгена Івановых, Вячаслава Славінскага, Пятра Адамчыка, Алены Гразновай і Таццяны Русак.

Па словах кіраўніка студыі выяўленчага мастацтва Яўгена Гіля, гэта выстава з'яўляецца творчай справаздачай калектыву на падцвярджэнне звання «Народная студыя», якая дзейнічае пры РДК.

## Камбікормаў пабольшала

**На вуліцы Мінскі тракт на месцы былой сенабазы камбікормавы завод адчыніў склад-магазін.**

Там можна купіць камбікорм, крупяную сечку, муку і іншыя кормасумесі для хатняй жывёлы і птушкі. Цэны на гэту прадукцыю значна ніжэйшыя, чым у магазінах рознічнага гандлю горада.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Чытайце ў нумары:



**ЗДАРЭННІ**

## Наехаў...

**У ноч з 7 на 8 сакавіка ў вёсцы Саковічы загінуў 50-гадовы мясцовы жыхар.**

На яго наехаў «Запарожац», якім кіраваў жыхар вёскі Дзераўная. Вадзіцель з месца здарэння знік, бо палічыў, што забіў чалавека. Міліцыя вадзіцеля пазней затрымала, але потым адпусціла, бо высветлілася, што жыхар з Саковіч памёр ад пераахаладжэння, лежачы на дарозе.

## Загінула...

**На мінулым тыдні ў Шчары, недалёка ад баранавіцкага маста, быў выяўлены труп жанчыны.**

Пазней высветлілася, што загінуўшай была 43-гадовая жыхарка горада Ж. На яе целе не былі знойдзены сляды гвалту — смерць наступіла ў выніку пападання вады ў лёгкія.

**Сяргей ЁРШ**

## Адпомсціў...

**Сёмага сакавіка, у суботу, у вёсцы Бракава згарэў дом.**

Высветлілася, што гэту хату гаспадар хацеў аліасць на сваю дачку, якая павінна была прыехаць з Краснаярска. Аднак пра гэта даведаўся яго сын і падпаліў дом, мяўляў, калі ні мне, то нікому. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

## Падпаліў...

**Восьмага сакавіка ў вёсцы Васілевічы прылюдна спрабаваў скончыць жыццё самагубствам 34-гадовы мясцовы жыхар Г.**

Ён на добрым падпітку падпаліў стог сена і падрыхтаваўся кінуцца ў агонь. Але яго своечасова схапілі аднавяскоўцы і выратавалі ад самагубства.

**Ст. лейтэнант Віктар ЗІМНІЦКІ**

## Адзначыў...

**Па-свойму вырашыў адзначыць свята жанчын малады хлопец, які ноччу з 7 на 8 сакавіка абакраў кветкавы кіёск, што стаіць каля рынку.**

Агульная сума ўкрадзенага складае каля 40 мільёнаў рублёў. Акрамя руж, гваздзікоў і цюльпанаў, злодзей прыхапіў з сабой касавы апарат і калькулятар.

## Угналі...

**Усяго на некалькі хвілін зайшоў слонімец Д. 7 красавіка ў магазін, што на Віленскай вуліцы, пакінуўшы свой матацыкл без нагляду.**

А калі выйшаў, то з жахам убачыў, што яго «сталёвага каня» угналі. Матацыкліст паведаміў аб гэтым у міліцыю. Не прайшло і гадзіны, як угоншчык, раней судзімы слонімец М., сядзеў у кабінеце следчага і даваў паказанні.

## Нагналі...

**Днямі работнікі міліцыі выявілі два факты збыту самагонкі.**

Продажам «цукроўкі» займаліся жанчыны: адна з вёскі Амяльнік, другая — з хутара, што побач з вёскай Хмяльніца.

Супраць самагоншчыц узбуджаны крымінальныя справы. Сёлета ў раёне зарэгістравана чатыры выпадкі продажу «сівухі».

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Мільён тон за год

**Летась грузавы аўтапарк № 11 перавёз мільён тон грузаў, што амаль удвая перавышае гэты паказчык за 1996 год.**

Па словах дырэктара прадпрыемства Паўла Аляшкевіча, поспехі былі дасягнуты за кошт стабільнасці працы людзей, якія заняты на міжнародных і міжгародніх перавозках. Аказваецца, што 12 цягачоў (усяго ў аўтапарку 150 аўтамашын), якія заняты на міжнародных лініях, перавезлі больш трэцяй часткі ўсіх грузаў. «Міжнароднікі» прынеслі прадпрыемству чвэрць усіх прыбыткаў.

Цяпер аўтамабілі-цягачы шмат каштуюць. Таму тэхнічная служба ГАП-11 вырашыла сваімі сіламі пераабсталёўваць у цягачы звычайныя МАЗы і КамАЗы.

Дзякуючы залатым рукам спецыялістаў першага ўчастка, дзе працуе брыгадзірам Леанід Музычка, праз кожныя 2-3 месяцы на міжнародныя лініі выходзіць чарговы цягач.

Дарэчы, шафёры аўтафургонаў слонімскага аўтапарка аб'ездзілі амаль усю Заходнюю Еўропу, акрамя дзвюх краін — Англіі і Партугаліі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

*Цены (в тыс. руб.)*

| | 25.02 1998 | 11.03 1998 | | 25.02 1998 | 11.03 1998 |
|---|---|---|---|---|---|
| апельсины | 40 | 45 | свинина | 55-120 | 55-135 |
| бананы | 50 | 50 | сало солёное | 80-85 | 70-85 |
| яблоки | 20-25 | 26 | мед | 200-250 | 250 |
| капуста | 10 | 14 | свекла | 6 | 6 |
| морковь | 6-7 | 6-8 | сметана | 28 | 28 |
| лук | 35 | 41 | киви (1шт.) | 12 | 12 |
| чеснок | 60 | 60 | лимоны | 58 | 60 |
| картофель | 6.5 | 6.5-7 | говядина | 60-115 | 45-110 |
| молоко (1л.) | 7 | 7 | мандарины | - | 65 |
| творог | 18-20 | 18 | ячмень (1 кг) | - | 7.5-8 |
| масло | 80 | 80 | поросята (пара) | - | -1.8млн. |
| яйца (1дес.) | 28-30 | 27 | куры (1 шт.) | - | 120 |

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ НА «ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЗАСТАЎСЯ ТЫДЗЕНЬ.**

Нагадваем: у сувязі з тым, што «ГС» забаранілі прадаваць у крамах горада, наша газета ў розніцу будзе распаўсюджвацца ў абмежаванай колькасці. Да 20 сакавіка на нашу газету можна падпісацца ва ўсіх паштовых аддзяленнях горада і раёна.

**Кошт падпіскі: на месяц — 15 тыс. руб., на квартал — 45 тыс. руб.**

СЕНСАЦЫЯ

# Ці хавае прэзідэнт грошы ў замежных банках?



**Сенсацыйную заяву днямі зрабіў беларускі бізнесмен, былы кіраўнік мінскай фірмы «Пушэ» Аляксандр Пупейка.**



Ёсць неабходнасць нашым чытачам нагадаць, што А. Пупейка быў затрыманы польскай паліцыяй у снежні 1997 года ў Варшаве па просьбе беларускіх уладаў, якія абвінавачваюць яго ў невяртанні крэдытаў на суму 500 млн. даляраў. Беларускі бок робіць усе захады, каб вярнуць бізнесмена ў Беларусь. Аднак палякі вырашылі асудзіць Пупейку сваім судом. Канчатковае рашэнне «феміда» яшчэ не вынесла. Тым не менш, падсуднага спачатку пад заклад вызвалілі на волю, потым дазволілі выязджаць у Германію, дзе жыве яго сям'я. Які вердыкт вынесе польскі суд яшчэ невядома, але, як піша польскі друк, суддзя Янкоўскі лічыць, што дакументы прадстаўленыя беларускай пракуратурай не могуць служыць доказам віны Пупейкі.

У сваю чаргу Пупейка ў інтэрв'ю польскай газеце ZYCIE (ЖЫЦЦЁ) сцвярджае, што прэзідэнт Лукашэнка нібы хавае грошы на рахунках у замежных банках. Вытрымкі з гэтага інтэрв'ю мы даслоўна ў перакладзе перадрукоўваем ніжэй.

**Віктар Валадашчук**

**Карэспандэнт: —Што б здарылася, калі б Вас выдалі беларускім уладам?**

**Аляксандр Пупейка:**—Дапускаю, што мяне маглі б забіць у турме па працягу двух тыдняў. Так атрымалася, што я валодаю каласальнай колькасцю інфармацыі і дакументаў, якія ўказваюць на скарумпаванасць Лукашэнкі і ягонага бліжэйшага атачэння.

**Кар.: —Вы можаце прывесці канкрэтны прыклад?**

**А.П.:**—Я ведаю, дзе Лукашэнка трымае свае грошы, атрыманыя ад нелегальнай эканамічнай дзейнасці. У Дзюсельдорфе і Кёльне знаходзяцца грошы, вырučаныя ад продажу алкаголю і цыгарэт у Расіі. Сродкі ад продажу зброі перакачвалі ў іншыя месцы. На замежных рахунках беларускага прэзідэнта знаходзяцца некалькі сотняў мільёнаў даляраў. Не меншыя сумы трымаюцца ў Беларусі «на ўсялякі выпадак». Гэта асабісты фонд прэзідэнта, ён складае каля 500 мільёнаў даляраў. Існуюць рахункі і на выпадак уцёкаў Лукашэнкі з краіны, але цяпер ён рыхтуе сабе месца ў Маскве...

**Кар.: —Вы сказалі, што не пражылі б у Беларусі і двух тыдняў. Чаму?**

**А.П.:**—Пакуль я буду жыць, то буду для іх небяспечны, нават знаходзячыся ў турме. Бяспечным буду толькі як нябожчык. Хутчэй за ўсё «скончыў бы жыццё самагубствам», як гэта «зрабіў» палкоўнік КДБ з Магілёва Міхаіл Ткачоў, які «нібыта павесіўся на нарах» у сваёй камеры. Акрамя Ткачова, у камеры знаходзілася больш за 10 чалавек, аднак «ніхто нічога не бачыў і не чуў». Ткачоў шмат ведаў аб махінацыях кіраўніцтва Магілёўскай вобласці. Я вельмі добра разумею, што цяпер вырашаецца пытанне майго жыцця альбо смерці.

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Епископа посадили в изолятор

**Вечером 6 марта в Минске был задержан и помещен в изолятор 43-летний епископ Белорусской православной автокефальной церкви отец Петр Гуща.**

В сан епископа он был возведен летом 1997 года архиепископом Юрием (США), главой зарубежной Белорусской православной церкви. Петр Гуща – довольно известная в белорусских оппозиционных кругах фигура, он активно участвовал в крупных акциях оппозиции, ранее возглавлял Общество белорусской шляхты. Мотивы его задержания неясны. Однако, знакомые и коллеги епископа полагают, что причиной ареста могли быть его резкие выступления в оппозиционной прессе, в которых критиковались московская Православная церковь. Близкие задержанного не могут получить о нем никаких сведений ни в милиции, ни в городской прокуратуре. Однако, согласно белорусскому законодательству, уже истек отведенный законом срок задержания Гущи; затем ему либо должны предъявить обвинение, либо освободить из-под стражи.

## Вандалы задержаны

**Белорусские правоохранительные органы задержали двух 19-летних минчан, подозреваемых в совершении акта вандализма на Военном кладбище по улице Козлова в Минске.**

23 февраля (День защитника Отечества) они опрокинули на территории кладбища 49 надгробий. По факту было возбуждено уголовное дело.

В Минске еще никогда не фиксировались столь массовые и дерзкие акты вандализма в отношении памятников и захоронений, связанных с Великой Отечественной войной.

**БелаПАН.**

## Выборов не будет

**Парламентские и президентские выборы в Беларуси состоятся согласно действующей Конституции. Об этом заявил президент Александр Лукашенко на пресс-конференции в Гродно 5 марта.**

По словам президента, такие организации, как ОБСЕ, ЕС и так далее, «толкают» его на досрочные выборы парламента. «Дело не в выборах, – сказал А.Лукашенко, – дело в том, ... на каком основании я распущу парламент? Я могу его распустить, если для этого будут конституционные основания или парламент сам решит уйти в отставку».

Аналогичной позиции придерживается президент и в отношении президентских выборов. Возможность их проведения в 1999 году, как это предусматривал дореферендумный вариант Конституции, А.Лукашенко расценил следующим образом: «Вы думаете, я боюсь этих выборов? Да поддержали бы меня люди на этих выборах. Опасность заключается не в самих выборах, а в том, что, пойдя на эти выборы, я перечеркну Конституцию, принятую на референдуме, по которой выборы должны состояться в 2001 году. Кроме того, – заявил А.Лукашенко, – президентские выборы – это хаос, неразбериха. Стоит только объявить за год и пошло: желающих стать президентом – море, пошли по деревням народ будоражить. Не то, что не посеем, не то, что стратегию, которую выработали сегодня, не осуществим, – снова получится хаос, и мы погрузимся в водоворот предвыборных баталий».

## В пожизненное владение

**Президент Беларуси Александр Лукашенко подписал указ, направленный на развитие крестьянских (фермерских) хозяйств страны.**

Согласно этому документу, районным исполнительным органам разрешено предоставлять гражданам республики для ведения крестьянских (фермерских) хозяйств в пожизненное наследуемое владение земельные участки площадью до 100 гектаров. Предприятиям государственной формы собственности разрешено, а колхозам и другим субъектам хозяйствования рекомендовано передавать крестьянским хозяйствам неиспользуемые здания, сооружения, машины и оборудование в аренду с последующим их выкупом и отсрочкой до трех лет начала внесения арендной платы. Совету Министров и Национальному банку поручено ежегодно при разработке проекта бюджета предусматривать выделение средств для выдачи крестьянским хозяйствам кредитов.

**БелаПАН**

## З'езд беларускіх мусульман

**14-15 сакавіка ў Мінску пройдзе трэці з'езд мусульман Беларусі.**

Ён будзе складацца з двух частак: у суботу, 14 сакавіка, сабярэцца на нараду рэлігійнае аб'яднанне мусульман, а на наступны дзень грамадскае – «Аль-Кітаб». Гродзеншчыну на з'ездзе будуць прадстаўляць 12 дэлегатаў, у тым ліку Сулейман Байрашэўскі, старшыня Слонімскага аб'яднання мусульман. Дарэчы, іх у горадзе налічваецца каля 150 чалавек.

**Сяргей ЁРШ**

ЧЕСТЬ ИМЕЮ

## Сколько женщин в армии

**В настоящее время в белорусской армии служат около четырех тысяч женщин, что составляет примерно пять процентов от общей численности личного состава Вооруженных сил республики.**

Основную часть женщин-военнослужащих составляют контрактницы, однако немало в их числе прапорщиков и офицеров — более 600 и 60 человек соответственно. Самое высокое звание — подполковник — среди женщин-военнослужащих на протяжении последних нескольких лет было у Надежды Гумянко, которая служит в одном из военкоматов Бреста. Однако совсем недавно такое же звание присвоили и заместителю военного комиссара города Лиды Надежде Мулице.

**БелаПАН**

## Профессионал

**Так говорят в Слонимской бригаде о заместителе командира мотострелкового батальона майоре Якове Тузине.**

После окончания высшего военного инженерного училища он служил в Германии, в разных гарнизонах России. В 1991 году Яков вернулся в родную Беларусь, где родился и вырос.

В офицерском коллективе майор Тузин пользуется авторитетом. Его называют "совестью батальона". Поэтому неудивительно, что сослуживцы избрали его председателем товарищеского суда офицерской чести.

**В.Ч.**



## Белорусов больше

**Из 18,5 тысячи офицеров, которые проходят службу в белорусских Вооруженных силах, белорусы составляют немногим более половины — 51%.**

Около 36% представителей офицерского корпуса — по национальности русские, примерно 10% — украинцы. Средний возраст офицеров белорусской армии — 33 года.

## Удивим Англию

**10 марта Главный военный оркестр Вооруженных сил Республики Беларусь отправился в Великобританию для участия в фестивале военных оркестров.**

Этот коллектив не первый раз участвует в подобных мероприятиях. Он неоднократно становился лауреатом престижных фестивалей военных оркестров.

**БелаПАН.**




Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэцкая, 109–1–12.
E-mail: gs@irex.minsk.by

Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 12 сакавіка 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.000 экз.
Заказ № 747

# Іх везлі на смерць...

**Шмат злачынстваў над мірным насельніцтвам учыніла бальшавіцкая ўлада за гады свайго існавання. Каб трымаць народ у пастаянным страху і пакорлівасці, бальшавікі ўжывалі самыя разнастайныя рэпрэсіі: адных чакалі турмы, другіх — Курапаты, а трэціх — высылка на чужыну. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, у 1940-41 гадах на Слонімшчыне былі праведзены чатыры масавыя дэпартацыі насельніцтва ў Сібір, Казахстан і на Поўнач. Першая дэпартацыя адбылася 10 лютага 1940 года. Тады ў Расію былі вывезены ўсе асаднікі, работнікі лясных службаў і іх сем'і. Найбольш было сярод іх палякаў.**

**Сёння мы друкуем спіс дэпартаваных людзей з вёскі Кастровічы. Усяго было вывезена 90 чалавек. З іх на чужыне загінулі дваццаць дзевяць...**

*Сяргей ЁРШ*

1. Радавіцка Каміла, каля 50 гадоў (памерла ў 1941 г.),
2. Сямашка Ганна, каля 30 гадоў,
3-4. дочкі Ганны, 6 і 8 гадоў,
5. Грзэлякоўскі Люцыян, каля 40 гадоў,
6. Грзэлякоўскі, бацька Люцыяна, каля 70 гадоў (пам. у 1940 г.),
7. Грзэлякоўска Марыя, каля 35 гадоў,
8. Грзэлякоўскі Генрык, каля 6 гадоў,
9. Грзэлякоўска Марыя, каля 3 гадоў,
10. Грзэлякоўскі ?, каля 1-2 гадоў (пам. у 1940 г.),
11. Сасіньскі Аляксандр, 1878 г. н. (пам. у 1941г.),
12. Сасіньска Юзэфа, 1886 г. н. (пам. у 1945 г.),
13. Сасіньскі Тадэуш, 1922 г. н.,
14. Сасіньска Галіна, 1925 г. н.,
15. Яцкевіч Адам, 1870 г. н. (пам. у 1940 г.),
16. Яцкевіч — жонка Адама, каля 60 гадоў,
17. Яцкевіч Стэфаня, каля 25 гадоў,
18. Яцкевіч Зыгфрыд, каля 18 гадоў,
19. Ткачук, каля 60 гадоў (пам. у 1940 г.),
20. Ткачук, яго жонка, каля 50 гадоў (пам. у 1941 г.),
21. Ткачук Гэновефа, каля 18 гадоў,
22. Ткачук Казімера, каля 17 гадоў (пам. у 1941 г.),
23. Ткачук — дачка, каля 15 гадоў (пам. у 1941 г.),
24. Ткачук — сын, каля 12 гадоў (пам. у 1940 г.),
25. Ткачук — сын, каля 10 гадоў (пам. у 1941 г.),
26. Камажыцка Яніна, 1919 г. н.,
27. Камажыцкі Сцяпан, 1923 г. н.,
28. Камажыцкі Казімер, 1926 г. н.,
29. Камажыцка Юзэфа, 1930 г. н.,
30. Фальтуноўска Зоф'я, 1909 г. н.,
31. Фальтуноўска Ванда, 1928 г. н.,
32. Беняс — бацька, каля 45 гадоў,
33. Беняс — маці, каля 40 гадоў,
34. Беняс Тадэуш, 1930 г. н.,
35. Беняс Ян, 1927 г. н.,
36. Беняс — дзіця, ? (пам. у 1940 г.),
37. Кроль — маці, каля 65 гадоў ( пам. у 1940 г),
38. Кроль Антоні, каля 45 гадоў (загінуў у арміі генерала Андэрса),
39. Кроль — жонка Антоні, каля 40 гадоў,
40. Кроль Чэслаў, каля 8 гадоў,
41. Кроль Феліцыя, каля 6 гадоў,
42. Кроль Казімеж, каля 4 гадоў,
43. Іздэбскі Станіслаў, каля 40 гадоў (загінуў у арміі Андэрса),
44. Іздэбска Ядвіга, каля 35 гадоў (пам. у 1942 г.),
45. Іздэбска Эва, каля 7 гадоў,
46. Іздэбскі Ержы, каля 5 гадоў,
47. Іздэбскі Уладыслаў, каля 3 гадоў,
48. Іздэбскі — немаўлятка, 1940 г. н. (пам. у 1940 г.),
49. Кавальчук Станіслаў, каля 40 гадоў,
50. Кавальчук — жонка Станіслава, каля 35 гадоў,
51. Кавальчук Ірэна, каля 15 гадоў,
52. Кавальчук Рышард, каля 13 гадоў,
53. Кавальчук ?, каля 8 гадоў (пам. у 1940 г.),
54. Кавальчук ?, каля 5 гадоў (пам. у 1941 г.),
55. Іздэбскі Ян, 1910 г. н. (загінуў у арміі Андэрса),
56. Іздэбска Уладыслава, 1912 г. н.,
57. Іздэбскі Тадэуш, 1933 г. н.,
58. Іздэбска Юзэфа, 1935 г. н.,
59. Іздэбскі Мар'ян, 1937 г. н.,
60. Раўскі Станіслаў, каля 45 гадоў (пам. у 1942 г.),
61. Раўска, жонка Станіслава, каля 40 гадоў,
62. Раўска Казімера, каля 18 гадоў,
63. Раўскі Казімер, каля 16 гадоў,
64. Раўскі Генрык, каля 10 гадоў (пам. у 1942 г.),
65. Бартніцкі Міхал, каля 70 гадоў (пам. у 1940 г.),
66. Бартніцкі Юзэф, каля 40 гадоў,
67. Бартніцка Канстанцыя, каля 40 гадоў,
68. Бартніцкі Збігнеў, каля 10 гадоў,
69. Бартніцка Рэгіна, каля 8 гадоў,
70. Бартніцка Аліна, каля 2 гадоў,
71. Бартніцка Крыстына, каля 1 года,
72. Кавальчук Аляксандр, 1872 г. н. (пам. у 1941 г.),
73. Кавальчук Юзэфа, 1876 г. н. (пам. у 1942 г.),
74. Кавальчук Яніна, 1923 г. н.,
75. Кавальчук Ян, 1930 г. н.,
76. Іздэбскі Юзэф, 1872 г. н., (пам. у 1940 г.),
77. Іздэбска Марыя, 1876 г. н. (пам. у 1942 г.),
78. Іздэбскі Эдвард, 1904 г. н. (прапаў без вестак),
79. Іздэбска Станіслава, 1909 г. н.,
80. Іздэбскі Люцыян, 1932 г. н.,
81. Іздэбскі Здзіслаў, 1937 г. н. ( пам. у 1941 г.),
82. Грахоўскі Аляксандр, 1880 г. н. (пам. у 1941 г.),
83. Грахоўска, жонка Аляксандра, 1890 г. н.,
84. Грахоўскі Казімер, 1915 г. н. (пам. у 1941 г.),
85. Грахоўска Зоф'я, 1918 г. н.,
86. Грахоўска Гэлена-Казімера, каля 50 гадоў,
87. Грамульскі Ян, 1923 г. н.,
88. Грамульска Леакадзія, 1925 г. н.,
89. Новацка Генрыка, 1918 г. н. (загінула ў арміі Андэрса),
90. Новацка Уршуля, 1939 г. н.

***Спіс паданы паводле польскага выдання: W matni. W tajze i na stepie orenburskim. Wspomnienia Sybirakow. (pod. red. T. Sosin'skiego). Sulejowek, 1996, s. 206-208.***

ШЛЯХ ДА БОГА

# Храм адбудуем разам

Амаль кожныя выхадныя на гарадскім рынку некалькі пажылых жанчын спяваюць царкоўныя песні. Яны прыходзяць сюды са святога благаславення пратэірэя Віктара, каб сабраць ахвяраванні на будаўніцтва Спаса-Прэабражэнскага сабора. Што прымушае іх у дождж і холад рабіць гэтую высакародную справу?

Любоў Шумко і Аляксандра Александровіч (а гэта менавіта іх можна бачыць на рынку) марацьь бачыць храм адбудаваным і таму ахвяруюць сябе Богу. Сваё жыццё Любоў Шумко звязала са служэннем Богу з самага дзяцінства. У свой час яна кіравала хорам у Новадзявяткавічскай, Міжэвіцкай, Шылавічскай і Сынковічскай цэрквах. Любоў Іванаўна ўпэўнена, што ў час вайны толькі святая песня і сіла божая абаранілі ад знішчэння фашыстамі яе родную вёску Міжэвічы.

Гэтыя прывeтлівыя і шчырыя жанчыны з радасцю паведамілі, што нядаўна на тыя сродкі, што яны сабралі на рынку і на ахвяраванні прыхажан на будаўніцтва сабора закуплена чатыры вагоны цэглы, і таму работы тут зноў аднавіліся.

—Звычайна за дзень мы збіраем каля мільёна рублёў, — гаворыць Аляксандра Александровіч. — Людзі кладуць у скрынку і сторублёўкі, і дваццацітысячныя купюры. А аднойчы адзін камерсант ахвяраваў сто тысяч. У асноўным, спаім апошнім рублём дзеляцца простыя людзі, —сказала яна. —Але аднойчы падыйшла нейкая жанчына і зганьбіла нас. Абазвала крахаборамі, — з горычу заўважыла Аляксандра Александровіч.

Пад цяжарам жыццёвых нягод яшчэ не ачарсцвела чалавечая душа. Значыць, патрэбна нам чысціня, дабрыня і святыня. Нам і дзецям нашым. Дык давайце разам адбудуем храм.

**Ірына АНТОНАВА**

ОСТОРОЖНО, ГРИПП!

**В Слониме и Слонимском районе гриппом уже переболело более 1000 человек.**

Хотя в этом году болезнь не носит глобального характера, тем не менее заболеваемость растет.

Следует напомнить, что грипп вызывается мельчайшими микроорганизмами — вирусами, которых насчитывается около 100 видов. Передается грипп от больного человека здоровому мельчайшими капельками слюны, которые распространяются при разговоре, кашле, чихании. Стоит напомнить о том, что грипп способен вызывать осложнения в виде воспаления легких, печени, почек, сердца, мозга, других органов и систем, приводит к обострению хронических заболеваний. При гриппе резко снижаются защитные силы организма.

Вирус неустойчив во внешней среде и быстро погибает на открытом воздухе. Губительным для вируса гриппа являются солнечные лучи.

Одним из важнейших путей профилактики гриппа остается закаливание, пребывание на свежем воздухе. В период эпидемии рекомендуется применение оксолиновой мази, которой смазывают наружные носовые ходы, закапывание в нос лейкоцитарного интерферона. Значительно повышает устойчивость к гриппу употребление богатой витаминами пищи: овощей, фруктов, соков, ягод. При простудных заболеваниях помогает настой шиповника. Не следует отказываться от таких народных средств как лук и чеснок. Употребляют эти овощи как в сыром виде в пищу, так и в виде настоев. Усиливает восприимчивость к гриппу алкоголь и курение. Человек в нетрезвом состоянии быстрее утомляется, легче простуживается, чаще болеет ОРВИ и гриппом. Внешне здоровые курильщики также восприимчивы к простудным заболеваниям, как и ослабленные дети. Если вы все-таки заболели, о чем свидетельствует появление сухого кашля, головной боли, недомогания, ломоты в суставах, необходимо вызвать на дом врача.

**Иван КРИНЧИК, врач-валеолог**

# В Бресте эпидемия

**Эпидемия гриппа началась в Бресте — пороговый уровень заболеваемости превышен в шесть раз.**

По распоряжению горисполкома в областном центре объявлен карантин и введен комплексный план мероприятий по защите населения города от гриппа. Это значит, что поликлиники перешли на 6-дневную рабочую неделю, в больницах запрещено посещение больных, больничные листы выдаются на более длительный срок и так далее.

Самая высокая заболеваемость сегодня отмечена среди учащихся школ, однако пока на карантин закрыта только гимназия N 1.

**БелаПАН.**

НАВІНЫ

# Пашанцавала

**Нядаўна 52-гадовы слонімец Тадэвуш Жукоўскі па асабістых справах ездзіў у Маладзечна.**

Там ён наведаў мясцовы цэнтральны універмаг, дзе прыглядзеў сабе ланцужок з крыжыкам. У ювелірным аддзеле Жукоўскага прадаўцы сустрэлі нязвыкла ветліва. Аказалася, што слонімец стаў тысячным наведвальнікам гэтага аддзела. Дахаты ў Слонім Тадэвуш Жукоўскі паехаў з падарункамі: некалькімі прыгожымі ланцужкамі, медальёнам і мужчынскім манікюрным наборам.

**Сяргей ЁРШ**

# Показали характер

**Очередную победу одержала детско-юношеская команда «Талант-Динамо» на международном турнире по мини-футболу.**

На этот раз соревнования проходили в городе Белоозерске Брестской области. Уверенно проведя матчи на первом этапе, слонимские футболисты вышли в 1/2 финала, где встретились с командой Бреста. Игра получилась зрелищной и упорной. Обе команды показали прекрасное мастерство. Однако в итоге чуть больше повезло нашим ребятам — 3:1. А вот в финале со счетом 2:0 игру повели пинские юноши, но, проявив характер, слонимские футболисты не только сравняли счет, но и победили — 8:2.

**Евгений РОМАНОВ**

# ПЯТНІЦА, 13

## «Сатаністы» у Слоніме?

**У лютым, пасля пятніцы 13-га, у горадзе, магчыма, засвяціліся «сатаністы».**

Як стала вядома рэдакцыі «ГС», у нядзелю, 15 лютага, у адной са слонімскіх праваслаўных цэркваў невядомыя ўчынілі акт вандалізму. Відавочцы адзначаюць, што падчас службы нейкая жанчына зняла драўляны крыж, які вісеў на сцяне пры ўваходзе ў храм, і адразу паламала яго на кавалкі. Жанчына была не адна, яе «прыкрывала» група маладых хлопцаў.

Аднак, калі карэспандэнт «ГС» папрасіў настаяцеля царквы расказаць пра гэта здарэнне, той заявіў, што такі факт не меў месца. Праўда, бацюшка прызнаў, што крыж усё ж быў пашкоджаны. «Гэта выпадкова зрабілі вернікі, якіх у той дзень было надзвычай шмат», — паведаміў святар.

Тым часам «сатаністы» шмат нашкодзілі ў іншых месцах Беларусі. Напрыклад, у Брэсце і Гродне. А вось у 1997 годзе ў Зэльве адбыўся жудасны выпадак вандалізму на тэрыторыі мясцовай Свята-Троіцкай царквы. Група маладых «сатаністаў» была затрымана і асуджана.

**Сяргей ЁРШ**

## Мертвое тело долго каталось

**После новогодних праздников в службу социальной помощи Запорожья пришел пьяный мужчина. Он просил помочь похоронить его старушку-мать: мол, могилу копают друзья, а от ритуального отдела требуются только катафалк с гробом. К назначенному часу он был доставлен по указанному адресу.**

Войдя в квартиру, работники социальной службы ощутили страшную вонь. Оказалось, старушка умерла еще 30 декабря, но сын не торопился с похоронами, решив встретить с ней посленовогодние праздники.

Усопшую уложили в гроб, погрузили его в катафалк и отправились на кладбище, где, по словам сына, уже вырыта могила. Однако стражи кладбища катафалк на территорию не пустили, сообщив, что никакой свежевырытой могилы у них нет. Наступили сумерки, рабочий день водителя катафалка закончился. Старушку решили везти к дому: не оставлять же под оградой. Гроб привезли во двор и оставили там, следуя традиции не заносить покойника в дом второй раз. Сын ограничился тем, что укрыл гроб ящиками. Соседи, увидев стоящий во дворе гроб с телом похороненной, как они думали соседки, вызвали милицию. Она приняла решение не оставлять тело во дворе на ночь и снова отвезла гроб на кладбище, попросив сторожей за ним присмотреть.

Наутро работники социальной службы снова вызвали катафалк и отвезли тело на другое кладбище, где оно было предано земле.



## Туристов приглашают раствориться в воздухе

**Американский ученый Кен Роговиц, изучающий руины мексиканского города Укалатцль, утверждает, что не раз становился свидетелем исчезновения туристов, осматривавших древние пирамиды.**

—В мае прошлого года, — говорит он, — когда моя экспедиция вела раскопки у подножия храма, к нему подошел один англичанин и стал подниматься по лестнице. Достигнув вершины, он исчез прямо на наших глазах. Две недели спустя я наблюдал восхождение супружеской пары из Бостона, завершившееся точно таким же образом.

Начиная с 1991 года городские власти получили сведения о бесследном исчезновении 153 человек.

Жители Мексики убеждены, что ступени пирамид ведут в потусторонний мир, и, пока человек поднимается на вершину, Боги решают, достоин он бессмертия или нет. Если да, то они позволяют ему дойти до неба и присоединиться к их компании.

**"Мегаполис-Экспресс"**



## Магія лічбаў



Лічбам у магіі заўсёды надавалася вялікае значэнне. Чароўнымі ва ўяўленнях многіх народаў свету лічацца лічбы 3, 7, 9. Лічба 3 — свяшчэнная для ўсіх еўрапейскіх народаў, яна сімвалізуе тры касмічныя галіны, або тры часткі Сусветнага Дрэва: можна нагадаць свяшчэнную трыяду багоў, трох герояў у казках (тры сыны, тры браты і г. д.), тры спробы, тры этапы любога працэсу — узнікненне, развіццё і завяршэнне. Лічба 4 таксама лічыцца магічнай (чатыры асноўныя напрамкі свету, чатыры пары года, чатыры асноўныя элементы свету і г. д.) — як вобраз ідэі цэласнасці свету. Сума дзвюх магічных лічбавых канстантаў (3+4) дае магічную лічбу 7. Сусветнае Дрэва часта ўяўлялася як дрэва з сямі галінак (як 7 планетных нябёс, 7 колераў вясёлкі). У рускіх і беларускіх казках часта гучыць матыў пра "сем сыноў, сем Сімяонаў".

Увогуле лічба 7 — самая таямнічая і звышнатуральная. Адна з самых папулярных кніг Бібліі "Откровение" пабудавана на лічбавым сімвалізме, і лічба 7 сустракаецца ў ёй 54 разы: сем пячатак, сем труб, сем кубкаў гневу, сем духаў перад прастолам і г. д. Па Бібліі, Сусвет быў створаны за 7 дзён. Гасподзь працаваў шэсць дзён і на сёмы адпачываў (сем дзён складаюць тыдзень). Ідэя суботы, адпачынку і роздуму пасля працы і самааддачы адлюстравана ў прыродзе "7" як адыход ад свету, самапаглыбленне, медытацыя. Нельга не ўспомніць, што ў шэрагу гукаў — сем нот, у малітве Гасподняй — сем просьбаў, смяротных грахоў таксама сем, сем частак чалавечага твару, сем адтулін у чалавечым целе.

Вялікае значэнне, якое надаецца лічбе 7, звязана з Поўняй (Поўналуннем). Старажытныя людзі лічылі, што менавіта Поўня кіруе жыццём на Зямлі, а паколькі цыклы яе складаюцца з сямі дзён, то і на Зямлі жыццё павінна дзяліцца на сямідзённыя перыяды. Згодна з магічным мысленнем, так яно і ёсць. Чалавечае цела абнаўляецца кожныя сем гадоў (сёння гэта ўжо пацверджана і даннымі сучаснай медыцыны). Знахары і магі лічаць, што хваробы развіваюцца згодна з сямідзённым цыклам, з крызісамі на 7-ы, 14-ы, 21-ы дзень. Каб вылечыць хваробу, трэба 7 разоў прымяняць свае веды і ўменне. Верылі, напрыклад, і ў тое, што дзеці, якія нарадзіліся на першы, шосты, сёмы, дзевяты, адзінаццаты, шаснаццаты дзень Поўні жывуць вельмі доўга, а тыя, хто нарадзіўся на трэці (але не заўсёды), пяты, трынаццаты, дваццаць дзевяты, — наадварот. Добра таксама, калі дзіця нараджаецца на чатырнаццаты дзень Поўні, — яно будзе дасканалым ва ўсіх адносінах. Магі, знахары і чарадзеі заўсёды лічылі, што ў час маладзіка ўся прырода абнаўляецца і людзі таксама атрымліваюць новыя сілы, а да маладзіка Поўня ўтрымлівае свае сілы — разам з гэтым змяншаюцца і сілы чалавецтва. Кожная стадыя чалавечага росту завяршаецца на працягу сямі гадоў, кожная фаза Поўні — на працягу сямі дзён.

Лічба 9 таксама лічыцца магічнай. Папершае, як 3 памножанае на 3. Па-другое, яна з'яўляецца свяшчэннай у многіх народаў свету ў сувязі з 9-месячным пачатковым жыццём чалавека ў матчыным целе.

Памнажэнне лічбавых канструкцый 3x4 дае нам магічную лічбу 12 (12 месяцаў года як вобраз пэўнай паўнаты). Хутчэй за ўсё, 12 апосталаў у Бібліі, таксама не выпадковая лічба. Поўдзень (12 гадзін дня) і поўнач (12 гадзін ночы) лічыцца незвычайным часам сутак. Па народных уяўленнях, у гэты час нельга пачынаць якуюнебудзь справу, увогуле, калі штонебудзь робіш у гэты час, трэба на хвіліну спыніцца. А вось для пачатку пэўных магічных дзеянняў (асабліва чорнай магіі) якраз лепш за ўсё падыходзіць поўнач.

Старажытныя магі спрабавалі пры дапамозе лічбаў прадказваць лёс чалавека. Большасць нумеролагаў падкрэслівае важнасць лічбы нараджэння, якая вызначаецца шляхам складання даты нараджэння (лічба месяца + дата нараджэння + год нараджэння на лічбах). Таксама мае вялікае значэнне і лік імені. Напрыклад, лічаць, што людзі, лік імені якіх роўны 1, маюць добрую памяць, заўсёды дасягаюць сваёй мэты, імкнуцца да незалежнасці, 3 — вясёлыя, дасціпныя, імклівыя, жыццялюбівыя, ім часцей за ўсё шанцуе ў жыцці і г.д. На жаль, у нумеролагаў няма адзінай думкі адносна таго, якое лічбовае значэнне трэба прысвойваць кожнай канкрэтнай літары. Паводле першай (найбольш сучаснай сістэмы), запісваюцца лічбы ад 1 да 9, а пад імі літары ў алфавітным парадку.

**"Звязда"**

## «Черные» анекдоты

☺☺☹

На кладбище два покойника:
—Ты с какого века?
—С пятнадцатого. А ты?
—С восемнадцатого?
Видят, идет третий.
—А ты с какого века?
—Да я с работы, со второй смены...

☺☺☹

Умирающая теща:
—Какое сегодня голубое небо, необыкновенные облака...
—Не отвлекайтесь, мама, занимайтесь своим делом, — просит зять.

☺☺☹

Школьников привели на экскурсию на стройку. Экскурсовод раздал каски и говорит:
—Дети, оденьте каски, а то был такой случай. Мальчик с девочкой пошли на стройку. Девочка была в каске, а мальчик — без. Им на голову упали кирпичи. Мальчик погиб, а девочка засмеялась и убежала.
—Я знаю эту девочку, — сказал Вовочка, — она до сих пор бегает в каске и смеется.

☺☺☹

Рассказывает чукча:
—Хорошо тайга жить... Медведя убил — мясо есть, соболя убил — шапка есть, геолога убил — спичка есть...

☺☺☹

К американскому президенту прибежали черти. Президент в испуге:
—Вы откуда? Что вам надо?
—Умер Сталин и попал в ад!
—Ну и что?
—Так мы оттуда. Первые беженцы...

☺☺☹

Встречаются два парня. Один несет огромный обалденный букет роз.
Второй:
—Кому цветы?
—Светке Ивановой.
—Представляю, как она обрадуется!
—Да вряд ли... Сегодня ее похороны...

☺☺☹

Два голодных людоеда, бывалый и начинающий, подползают по кустам к небольшому торжеству, организованному студентами в лесу.
Начинающий:
—Слушай! Народу сколько! Вот сейчас перекусим!
Бывалый:
—Ты что! Это же студенты! Мяса мало, да и то жесткое. А на следующее утро бодун ужасный и привкус дешевых сигарет во рту!

☺☺☹

Больной просыпается после тяжелой операции и спрашивает медсестру:
—Скажите, а почему вы занавесили все окна в мою комнату?
—Дело в том, что напротив ваших окон, через улицу идет сильный пожар, и мы бы не хотели, чтобы вы, очнувшись, решили, что операция завершилась неудачей...

☺☺☹

—А ночью вас лихорадило?
—О, да.
—Зуб на зуб не попадал?
—Не знаю. Зубы лежали на ночном столике...

